*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

**№455 • Чэрвень-ліпень 1998 г.**
Год выд. 48

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**

## ДЫПЛЯМАТЫЧНАЯ ВАЙНА ЗА ДРАЗДЫ

Думаю, кожны, хто сачыў за Драздоўскім крызысам, ставіць перад сабою пытаньне: якую мэту меў на ўвеце Лукашэнка, распачаўшы вайну супроць дыпляматаў? Гэта тонка прадуманы ход дальнабачнага палітыка? Ці прыступ нядужасьці цяжка хворага чалавека?

Дзівячая непасрэднасьць, зь якою Лукашэнка абражаецца, злуецца, мяняе рашэньні, крыўдуе, здарадніча́е, вераломствуе, клянецца й кляне, — ламаюць уяўленьні некаторых палітыкаў пра Лукашэнку як марыянэтку, сляпога выканаўцу чужой волі. У дзеяньнях Лукашэнкі ў сувязі з Драздамі цяжка ўгледзець хоць нейкую пасьлядоўнасьць і рацыянальнасьць. Можна дапусьціць, што гэткім чынам беларускі прэзыдэнт жадае, зграўшы на ксэнафобіі вялікай часткі беларускага жыхарства, адцягнуць увагу ад унутраных праблемаў. Але-ж як няўклюдна, няўмела ён гэта робіць. Мы бачылі, як Лукашэнку ўдавалася бліскуча зьдзяйсьняць пляны, распрацаваныя ягоным акружэньнем. Тады кожны крок дзяржаўных мэдыяў, сілавых структураў быў дакладны. У выніку Лукашэнка атрымаў не адну перамогу.

У выпадку з Драздамі мы назіраем за непрадуманымі, нескаардынаванымі дзеяньнямі дзяржаўных мужоў, якія пачаткова стараліся выправіць, загладзіць канфлікт, а калі пераканаліся, што «бацька» ўпёрся — пачалі прадукаваць паперкі, у якіх, напрыклад, адключэньне вады ў рэзыдэнцыі дыпляматаў тлумачыцца... ды хоць нацыянальнымі традыцыямі!

Зрэшты, тут ня так мала праўды, як здаецца на першы пагляд. Рэч у тым, што ў Менску ўлетку й сапраўды адключаюць ваду (часам ня толькі гарачую, але й халодную) тэрмінам на 1—1,5 месяцы па чарзе ва ўсіх раёнах горада. Чым не нацыянальная традыцыя!

Лягічным вынікам Драздоўскага крызысу сталася забарона на выдачу візаў у большасьць эўрапейскіх краінаў Лукашэнку й 129 ягоным супольнікам.

**Дамінік Лось**

## ШВАЙЦАРСКІ КАНФУЗ

Ускосным доказам таго, што драздоўскі крызыс распаліўся адно з прычыны неўраўнаважанасьці беларускага прэзыдэнта, стаўся візіт Лукашэнкі ў Швайцарыю.

У мястэчку Кран-Монтана штогод адбываецца Міжнародны Эканамічны Форум з удзелам уплывовых палітыкаў і бізнэсоўцаў Захаду. Згаладалы па замежных паездках Лукашэнка ня мог не скарыстаць рэдкай магчымасьці сустрэцца зь людзьмі, ад якіх залежыць, ці атрымае беларуская эканоміка заходнія інвэстыцыі.

Нічога, здавалася-б, не прадказвала будучага інцыдэнту, калі не лічыць спазьненьне беларускага кіраўніка на паседжаньне. Аднак у часе ягонага выступу («у хатніх умовах» — напрыклад, на беларускім тэлебачаньні — Лукашэнка звычайна прамаўляе некалькі гадзін запар), яму нагадалі пра рэгляманэт: адведзеныя 10 хвілін скончыліся. І тут дакладчык выбухнуў фразаю, запазычанаю ў савецкіх агітатараў часоў застою: «Вот ваша хвалёная западная демократия!» і кінуўся ўпрочкі.

Вымкнуўшы з залі паседжаньняў, прэзыдэнт быў настолькі асьлеплены гневам, што вымесьціў яго на прадстаўніках Расеі. Розныя крыніцы падаюць крыху адрозныя варыянты цытаты, але сутнасьць выказаньня нязьменная: дастаткова было кіраўніцтву адной краіны расстраляць свой парлямэнт, каб гэтую краіну прынялі ў Эўрапарлямэнт.

Гэта ўжо сур'ёзны сымптом: Лукашэнка ўкусіў старэйшага брата. Цяпер Міністэрства Замежных Справаў Расеі чакае ад Менску афіцыйных выбачэньняў. Відаць, надарэмна.



12 чэрвеня 1998 году
на 89-м годзе жыцьця
спачыў
нястомны беларускі працаўнік,
выдатны навуковец,
літаратар, пэдагог,
грамадзкі дзеяч
**АНТОН АДАМОВІЧ**

*Бацькі маюць права прыярытэту ў выбары віду адукацыі для сваіх дзяцей*
***Усеагульная Дэклярацыя Правоў Чалавека Артыкул 26.3.***

## ЛІЦЭЙ ПРАЦЯГВАЕ ЗМАГАНЬНЕ

Ужо другі год працягваецца барацьба Беларускага Гуманітанага Ліцэю ў Менску — выкладчыкаў, вучняў і іх бацькоў — за сваё існаваньне як асобнай навучальнай установы.

Ліцэй быў створаны ў 1990 г. У ім склаўся выдатны выкладчыцкі калектыў, у якім працуюць кандыдаты й дактары навук. На сёньня гэта сапраўдны інтэлектуальны цэнтар, школа беларускага патрыятызму.

Таму ня дзіва, што антыбеларускі рэжым паставіў сабе за мэту зьнішчыць гэтую «адзіную ў Беларусі навучальную ўстанову перадунівэрсытэцкага тыпу, дзе ўсе прадметы выкладаюцца па-беларуску на высокім эўрапейскім узроўні» (з заявы навучэнцаў ліцэю ад 5 чэрвеня 1998 г., апублікаванай у «ЛіМе»). У абарону ліцэю выступілі ня толькі беларускія, але й міжнародныя праваабарончыя арганізацыі. Праводзяцца шматлікія пікеты, зьбіраюцца подпісы ў абарону ліцэю. Аднак улады — а расправіцца зь ліцэем даручана сумна вядомаму палкоўніку Заметаліну — ня думаюць пакідаць сваіх дзікіх плянаў: яны гатовыя пазбавіць дзяцей права вучыцца, бо гэтыя дзеці ня хочуць вучыцца па-расейску. **З. С.**

---

БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ
ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ
**запрашаюць 5-7 верасьня**
**ў Нью-Брансўік, штат Нью-Джэрзі, ЗША**
**на 23-ю СУСТРЭЧУ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ**

ТЭМА СУСТРЭЧЫ:
**БЕЛАРУСЬ, БНР І ДЭМАКРАТЫЯ Ў XXI СТАГОДЗЬДЗІ**

ПРАГРАМА СУСТРЭЧЫ:

**Субота 5 верасьня**
10 AM: Памінальная служба на Беларускім Магільніку ў Іст Брансўіку.
11 AM: Адкрыцьцё сустрэчы. Сымпозыюм: «Беларусь у XXI стагодзьдзі».
9 PM: Баль-сустрэча ў залі гатэля **Hyatt**.

**Нядзеля 6 верасьня**
10 AM: Багаслужба ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парку
1 PM: Урачысты банкет, прысьвечаны 80-м угодкам БНР, і канцэрт у **Regency Ball Room**.
5 PM: Сымпозыюм.

Арганізацыйны камітэт Сустрэчы просіць як найраней паведамляць аб удзеле ў Сустрэчы па телефонах: 732-545-6654, 732-560-8610.

**23rd BIENNIAL CONVENTION OF BELARUSANS IN NORTH AMERICA**
BELARUSAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
BELARUSAN-CANADIAN ALLIANCE
cordially invite you to attend:

- **symposium** focusing on Belarus and Democracy in the 21st century (followed by brunch)
SATURDAY, SEPTEMBER 5, 1998 at 11:00 AM
*Tickets: advance $20, at the door $25*

- **banquet and concert** commemorating 80 years of the BNR
SUNDAY, SEPTEMBER 6, 1998 at 1:00 PM
*Tickets: advance $35, at the door $40*

Both events will take place in the **Hyatt Regency** (Garden State Ballroom)
Two Albany Street, New Brunswick, New Jersey
RSVP by August 15, 1998

For information: Mr. George Azarko (732) 560-8610, Mr. John Chanenka (216) 781-7231, Mr. M. Ganko (416) 287-0798, Ms. Ala Ščečka (718) 847-4123, Mr. Victor Tur (732) 390-0640

***For room reservations: Hyatt Regency (732) 873-1234***

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## СТАЛІНСКІЯ МЭТАДЫ

Сёлета міжнародная грамадзкасьць адзначае цэлым шэрагам урачыстасьцяў 50-гадовую прыняцьця Ўсеагульнай Дэклярацыі Правоў Чалавека. У сувязі з гэтымі ўгодкамі Міжнародная Гэльсынская Фэдэрацыя (МГФ), якая сочыць за правамі чалавека ў Эўропе, апублікавала рапарт пра стан правоў чалавека на эўрапейскім кантынэнце. У дакумэнце сказана, што ў шэрагу краінаў, у тым ліку ў Беларусі, становішча з правамі чалавека пагоршылася. Паводле МГФ, у Беларусі ў некалькіх сфэрах «урадавая палітыка й тактыка ўсё больш і больш прыпадабняецца да тых, якія былі за часамі Сталіна, і відавочна скіраваныя... на здушэньне грамадзянскай супольнасьці».

## ДЭФІЦЫТ ЕЖЫ: BACK IN THE USSR

Паводле праведзенага Беларускай Фэдэрацыяй Прафсаюзаў апытаньня сярод высокакваліфікаваных работнікаў, 82% рэспандэнтаў лічаць, што эканамічнае становішча ў Беларусі пагоршылася. Амаль палова апытаных паінфармавала, што ім не стае грошай на харчаваньне, 57% ня могуць дазволіць сабе купляць неабходную колькасьць адзеньня й абутку, 63% ня ў стане забясьпечыць свае сем'і.

Лукашэнка абяцае вярнуць Беларусь да ўмоваў жыцьця пры саветах. Трэба прызнаць, што адна з заваёваў разьвітага сацыялізму — дэфіцыт харчаваньня — ужо вяртаецца.

Нягледзячы на катастрафічнае становішча з харчаваньнем, Лукашэнка й надалей загадвае трымаць кошты. Ён мае магчымасьць ажыцьцяўляць такую палітыку, бо ў краіне амаль няма прыватных харчовых крамаў.

А тым часам людзям у Беларусі ўсё цяжэй набыць цукар, мяса, малочныя вырабы. Асабліва востра адчуваецца дэфіцыт харчоў у прылеглых да Расеі рэгіёнах. Такая сытуацыя тлумачыцца тым, што беларускія вытворцы ежы, ня хочучы прадаваць сваю прадукцыю па нізіх (часам ніжэйшых за сабекошт) лукашэнкаўскіх цэнах, — вязуць свой тавар у Расею, а гэта вельмі проста пры фактычнай адсутнасьці мяжы. **І. С.**

## САМАЯ ВАЖНАЯ КНІГА

Рыхтуецца да выхаду кніга пра Аляксандра Лукашэнку. Яе аўтар — Уладзімір Якутаў — ведамы як біёграф камуністычных правадыроў Беларусі Аляксандра Мясьнікова (сапраўдн. Мясьнікян), Аляксандра Чарвякова (сапраўдн. Чарвяк), Пятра Машэрава (па прызнаньні самога П. Машэрава, яшчэ ягоны дзед меў прозьвішча Машэра).

Новая кніга будзе выдадзеная ў расейскай, нямецкай, францускай і гішпанскай мовах. Беларуская й ангельская ў калідорах сёньняшняй беларускай улады — нежаданыя. Зь беларускай усё ясна, а ангельская ў шэраг гнаных трапіла зусім нядаўна, але невыпадкова.

У апошніх прамовах Лукашэнкі, напрыклад, у Швайцарыі (гл. **Швайцарскі канфуз**) на фоне заігрываньня з эўрапейцамі праклямаваўся адкрыты антыамэрыканізм.

Прэзэнтацыю кнігі мяркуецца правесьці ўлетку 1999 г. — акурат у часе прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі.

## ЗА АНЭКДОТ ЗНОЎ БУДУЦЬ САДЗІЦЬ?

Палата прадстаўнікоў лукашэнкаўскага парлямэнту ўхваліла праект закону, паводле якога абраза прэзыдэнта й паклёп на яго, незалежна ад таго, меў гэты паклёп ці ня меў публічны характар, зьяўляецца крымінальным злачынствам. За гэта прадугледжваецца пакараньне — 4 гады турмы або 2 гады калёніі ці штраф.

Праект закону таксама прадугледжвае пакараньне за выкарыстаньне ў публічных месцах плякатаў і распаўсюджваньне праз мас-мэдыі зьвестак, якія могуць быць расцэненыя як абразьлівыя для гонару й годнасьці прэзыдэнта. **І. С.**

## «ЗВЫЧАЙНЫ ПРЭЗЫДЭНТ» У НЬЮ ЁРКУ Й ВАШЫНГТОНЕ

Штогод у Лінкальнаўскім Цэнтры, Нью Ёрк, міжнародная праваабарончая арганізацыя *Human Rights Watch* ладзіць кінафэстываль дакумэнтальных фільмаў. Сёлета першую ўзнагароду фэстывалю атрымаў фільм «Звычайны прэзыдэнт». Нагадаем, што фільм расказвае пра сучасную сытуацыю ў Беларусі, пра ўзьнікненьне й умацаваньне рэжыму Лукашэнкі. У мінулым годзе стужка атрымала ўзнагароду таксама Бэрлінскага кінафэстывалю. Паказ фільму ў Беларусі забаронены сёньняшнімі беларускімі ўладамі.

14 чэрвеня ў кінатэатры *Walter Reed* пры Лінкальнаўскім Цэнтры адбылася сустрэча гледачоў з аўтарам фільма — рэжысэрам Юрыем Хашчавацкім, які, адказваючы на шматлікія пытаньні, між іншага так ахарактарызаваў беларускіх патрыётаў: гэта людзі высокага інтэлекту, яны хочуць шанаваць сваю мову, свае сьвяты, свае традыцыі, кожны народ мае на гэта права.

18 чэрвеня зь ініцыятывы «Радыё Свабода» і арганізацыі *International League for Human Rights* «Звычайны прэзыдэнт» дэманстраваўся ў Сэнаце ЗША ў Вашынгтоне. Фільм выклікаў вялікае зацікаўленьне з боку амэрыканскіх палітыкаў.

Відэо-копію фільма «Звычайны прэзыдэнт» можна атрымаць праз прадстаўніцтвы *Human Rights Watch* **у Нью Ёрку (212) 216-1277, Лёндане (44171) 713-1995, Бруксэлі (322) 736-7838, Маскве (7095) 265-4448.**

**А. Зановіч**

## ІНТЭРВІЮ НУМАРУ

***З 11 да 21 чэрвеня ў ЗША знаходзіўся намесьнік старшыні БНФ Юры Хадыка, які згадзіўся адказаць на пытаньні нашага карэспандэнта.***

**«Беларус»:** *У ліпені 1999 г. скончаецца тэрмін прэзыдэнцтва Лукашэнкі. Нядаўна ён заявіў пра тое, што выбары прэзыдэнта ўсё-ж такі адбудуцца. Ці будзе ўдзельнічаць апазыцыя, у прыватнасьці БНФ, у гэтых выбарах?*

**Юры Хадыка:** БНФ будзе ўдзельнічаць у выбарах, калі сёньняшнія беларускія ўлады выканаюць умовы, пры якіх выбары могуць лічыцца хоцьбы адносна свабоднымі: 1) дэманапалізацыя прэсы; 2) спыненьне палітычных рэпрэсіяў і вызваленьне ўсіх палітычных зьняволеных; 3) перафармаваньне выбарчых камісіяў, створаных Лукашэнкавай «вэртыкальлю», і прыцягненьне да ўдзелу ў іх апазыцыі. Інакш кажучы, неабходна аднавіць дзеяньне Канстытуцыі 1994 году. Гэта значыць, мы павінны вярнуцца да становішча, што склалася да лукашэнскаўскага дзяржаўнага перавароту ўвосень 1996 г. — правесьці давыбары ў Вярхоўны Савет 13-га скліканьня й працягнуць распачаты тады працэс імпічмэнту.

**«Б.»:** *Вы лічыце, што Лукашэнка дасьць згоду на працяг працэсу імпічмэнту?*

**Ю. Х.:** Для Лукашэнкі гэта найлепшае выйсьце, бо калі прэзыдэнт адхіляецца ад пасады праз імпічмэнт, то ён пазбаўляецца крымінальнай адказнасьці за зьдзейсьненыя ім дзяржаўныя злачынствы. А за дзяржаўныя злачынствы ў Канстытуцыі Беларусі й 1994 году й 1996 году прадугледжваецца й сьмяротнае пакараньне. Апазыцыя не павінна згаджацца ні на якія выбары, якія-б падмянялі сабою прэзыдэнцкія выбары, — ні на выбары ў мясцовыя саветы, ні на выбары ў Нацыянальны Сход (марыянэткавы орган, створаны замест разагнанага Вярхоўнага Савету — заўв. кар.).

**«Б.»:** *Трэба сказаць, ад выбараў у Нацыянальны Сход адмовіліся ўсе апазыцыйныя партыі, чым прадэманстравалі здольнасьць дзейнічаць суладна.*

**Ю. Х.:** Мы можам сутыкнуцца з сытуацыяй, калі Лукашэнка пастараецца ашукаць: паабяцае выканаць усе патрабаваньні, але гэтага ня зробіць. Вось тады перад апазыцыяй паўстане задача давесьці й беларускаму народу, і заходняму сьвету, што ўсе словы й дзеяньні Лукашэнкі — падман: ніякіх свабодных выбараў адбыцца ня можа.

**«Б.»:** *І што будзе доказам?..*

**Ю. Х.:** Самы моцны аргумэнт — байкот выбараў калі ня ўсімі, то прынамся найбуйнейшымі дэмакратычнымі партыямі.

**Б.:** *Наколькі верагодна, што Лукашэнка сапраўды выканае ўмовы правядзеньня свабодных выбараў? Мне здаецца, што Лукашэнка ня пойдзе на гэта.*

**Ю. Х.:** Па сваёй волі ён і сапраўды ніколі ня пойдзе на гэта. Ёсьць тры фактары, якія будуць яго прымушаць: дрэнны эканамічны стан, прэсынг Захаду, жаданьне Расеі. У адрозьненьне ад Вас, я ня думаю, што Лукашэнка настолькі моцны, каб ня лічыцца з гэтымі фактарамі. Вельмі магчыма, што ён будзе на словах згаджацца, а ў супраўднасьці нічога ў ягонай пазыцыі ня зьменіцца, і выбары стануць толькі фарсам. Калі мы здолеем пераканаць у гэтым Захад, то я ўпэўнены, што ў 1999 г. Лукашэнкі на пасадзе прэзыдэнта ня будзе. У іншым выпадку, пайшоўшы на выбары, мы сваімі рукамі легалізуем гэты рэжым, дазволім Заходу пайсьці шляхам пераконваньня дыктатара — Захад пачне дапамагаць яму ў быццам-бы правядзеньні лібэральных рэформаў. Гэта самая вялікая небясьпека: тады захаваецца сёньняшні рэжым, Лукашэнка ўцягнецца ў прэзыдэнцкія гульні ў Расеі, і Беларусь страціць незалежнасьць de jure. А ўжо адваёўваць страчанае будзе непараўнальна цяжэй, чым утрымаць цяпер.

**«Б.»:** *Ці вяліся перамовы зь іншымі апазыцыйнымі партыямі ў справе байкоту?*

**Ю. Х.:** Кансультацыі з партыямі, якія падтрымліваюць легітымны Вярхоўны Савет, праводзяцца ў нас рэгулярна. Папраўдзе, згоды ўдаецца дасягнуць не заўсёды. Мы яшчэ не абмяркоўвалі з гэтымі партыямі праблемы прэзыдэнцкіх выбараў. Аднак ёсьць разуменьне, што ня варта гэтыя выбары ініцыяваць зьнізу, з нашага боку, трэба даць зрабіць першы крок прэзыдэнту.

**«Б.»:** *Інакш кажучы, змусіць ворага першым распачаць страляніну, каб вызначыць ягоныя пазыцыі?*

**Ю. Х.:** Так. Але разам з тым разуменьня неабходнасьці байкоту ў гэтых партыях яшчэ няма. Праўда, застаецца час, каб пераканаць іх у гэтым.

**«Б.»:** *Аднак некалькі значных апазыцыйных партыяў ужо абвесьцілі пра тое, што будуць удзельнічаць у выбарах і нават назвалі ўжо верагодныя кандыдатуры. Напрыклад, Аб'яднаная Грамадзянская мяркуе вылучыць Генадзя Карпенку, «Народная Грамада» — Міколу Статкевіча, сацыял-дэмакраты на чале з Шушкевічам і Трусавым — натуральна Станіслава Шушкевіча.*

**Ю. Х.:** Вылучэньне Карпенкі ўжо выклікала на яго агонь лукашэнкаўскай прапаганды.

**«Б.»:** *Некаторыя прапаноўваюць кандыдатуру Карпенкі як адзінага кандыдата аб'яднанай апазыцыі.*

**Ю. Х.:** На маю думку, гэта памылковы крок. Бо вылучэньне адной асобы пазбавіць нас магчымасьці манэўраў. Усе сацыялягічныя апытаньні паказваюць, што ёсьць цэлы шэраг палітыкаў, якія маюць прыкладна аднолькавы рэйтынг. Гэта, акрамя Карпенкі, Шушкевіч, Пазьняк, Багданкевіч. Такім чынам, на працягу першага тура высьветліцца, хто з дэмакратычных кандыдатаў выйдзе ў другі тур, і ў другім туры гэтая асоба будзе рэпрэзэнтаваць аб'яднаную апазыцыю. Аднак і ў гэтым пытаньні няма ў нас адзінадушша. Аб'яднаная Грамадзянская Партыя лічыць, што павінен быць адзіны кандыдат. Але, па-мойму, яны забягаюць наперад. Яшчэ ня час прымаць такія рашэньні.

# ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ АБМЯРКОЎВАЮЦЦА Ў БРУКСЭЛІ

***3 чэрвеня ў Эўрапарлямэнце (Бруксэль) адбылося паседжаньне ў справе правоў чалавека й дэмакратыі ў Беларусі.***

Арганізатарам паседжаньня была спн. Эрыка Манн, старшыня дэлегацыі на Беларусь Дарадчае Групы АБСЭ (OSCE Advisory and Monitoring Group).

У ліку высокіх асобаў, якія прысутнічалі на паседжаньні й бралі слова, былі сп. Ганс-Гэорг Вік (кіраўнік Дарадчае Групы АБСЭ); сп. Ян Бонд (рэпрэзэнтант старшынства Рады Эўрапейскай Злучнасьці); спн. Эма Толедано Лярэдо (эўрапейская камісія DG); сп. Ул. Лабуноў (пасол Беларусі ў Бэльгіі); сп. Генадзь Карпенка, намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь; сп. Андрэй Саньнікаў, прадстаўнік «Хартыі-97»; сп. Ігар Гермянчук, галоўны рэдактар «Навінаў» (былая «Свабода»); сп. Іосіф Сярэдзіч, галоўны рэдактар «Народнае Волі».

Ва ўступным слове сп. Вік, прадставіўшы катастрафічную сытуацыю ў Беларусі, сурова скрытыкаваў беларускі ўрад у цэласьці й асабіста Аляксандра Лукашэнку. «Эўрапейская Камісія й Рада Эўропы, — зазначыў сп. Вік, — рабілі спробу ў 1997 г. пасярэднічаць паміж урадам Беларусі й апазыцыяй Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня ў канстытуцыйным канфлікце, які выбухнуў у Беларусі з прычыны спрэчнага канстытуцыйнага рэфэрэндуму». Які-ж вынік далі напружаныя 4-месячныя кансультацыі? Лукашэнка, на думку сп. Віка, не праявіў ніякае ініцыятывы, якую можна было-б лічыць поступам наперад. Ён ставіць зносіны з Масквою за галоўны прыярытэт. Рэжым Лукашэнкі ўяўляе надзвычайную небясьпеку.

Іншыя прамоўцы ў сваіх выступах пералічалі факты парушэньня ўрадам Беларусі правоў чалавека, казалі аб страшэнным ціску на незалежную прэсу й аб катастрафічнай сытуацыі ў беларускай эканоміцы, аб адсутнасьці спробаў з боку ўраду палепшыць становішча.

Апошняе слова было дадзена паслу Рэспублікі Беларусь у Бэльгіі Ул. Лабунову, які ўсімі сіламі абараняў беларускі ўрад і асабліва Лукашэнку. Па словах Лабунова, у Беларусі ўсё вядзецца паводле міжнародных стандартаў, вялікая колькасьць апазыцыйнае прэсы друкуецца й распаўсюджваецца без абмежаваньня; няма палітычных вязьняў — ёсьць толькі засуджаныя за парушэньне парадку падчас публічных шэсьцяў.

Беларуская апазыцыя, па словах пасла, мае толькі 8% падтрымкі беларускага народу. Маючы вялікую фінансавую й маральную падтрымку Захаду й неабмежаваны доступ да заходніх мас-мэдыяў, беларуская апазыцыя ўтварае перакручаны вобраз сытуацыі ў Беларусі... Трэба прызнаць, што гэтыя аргумэнты не пераканалі сяброў Эўрапарлямэнту.

**Янка Жучка**

---

**«Б.»:** *Ці Вы дапускаеце, што БНФ будзе ўдзельнічаць у выбарах (калі, вядома, будуць створаныя адпаведныя ўмовы), але ня будзе выстаўляць уласнага кандыдата?*

**Ю. Х.:** Паводле апытаньня сярод дэманстрантаў, 90% падтрымалі-б дэмакрата зь іншай дэмакратычнай партыі. Але цікава, што прыкладна столькі-ж лічаць, што патрэбны адзіны кандыдат ад апазыцыі. У мяне гэты апошні факт выклікае заклапочанасьць. Мне здаецца, мы можам вельмі памыліцца, зрабіўшы стаўку на асобу, якая, як акажацца пазьней, будзе мець высокі адмоўны рэйтынг.

**«Б.»:** *Вернемся да варыянту, пры якім, на Вашую думку, прыйдзецца пайсьці на байкот прэзыдэнцкіх выбараў. Паспрабую змадэляваць сытуацыю. Дэмакраты ня йдуць на выбары. Выбары праводзяцца. Перамагае, зразумела, Лукашэнка. Захад пераконваецца, што гэта падман, што выбары ня былі свабоднымі. Як далей разьвіваюцца падзеі?*

**Ю. Х.:** Гэта азначае, што стан беларускай эканомікі не палепшыцца ні на ёту, а будзе з кожным днём пагаршацца. Тады Лукашэнку прыйдзецца ратавацца ад народу ў ягоных сяброў.

**«Б.»:** *Іншымі словамі, Вы лічыце, што Лукашэнку зьмяце хваля народнага абурэньня? Мне здаецца, толькі голад можа прымусіць такую інэртную публіку, як большасьць нашых людзей, выйсьці на вуліцу, каб адваяваць годныя ўмовы існаваньня. Аж голад Беларусі не пагражае, бо ў нас, нягледзячы на індустрыялізацыю, захавалася паўнатуральная гаспадарка: большасьць гараджанаў Беларусі ня страціла эканамічнай сувязі зь вёскай. Зрэшты, мы бачылі нямала прыкладаў таго, як людзі, нават паміраючы з голаду, заставаліся слухмянымі й бязьдзейнымі. Узгадайма Кітай, Кубу, Паўночную Карэю.*

**Ю. Х.:** Тут ёсьць істотная розьніца: людзі ў гэтых краінах знаходзіліся ня столькі пад ціскам дыктатуры асобы — тым больш такой абмежаванай, як Лукашэнка, — колькі пад ціскам ідэалёгіі. Што мае Лукашэнка для народу, акрамя клятваў у любові? Як толькі сытуацыя пагоршыцца настолькі, што ён ня зможа «адкруціць» цэны назад, — яго проста разарвуць на кавалкі.

**«Б.»:** *Уявім сабе іншы варыянт разьвіцьця падзеяў. Дэмакраты байкатуюць. Лукашэнка перамагае й яго прызнае Захад...*

**Ю. Х.:** Гэта найгоршы варыянт. Тады Захад, прызнаўшы Лукашэнку за абранага народам прэзыдэнта, пачне дапамагаць яму. Таму паўтару: самае важнае пры такім варыянце разьвіцьця падзеяў — пераканаць Захад. Тое, што Захад можна пераканаць, паказалі падзеі восені 1996 г., калі Захад не прызнаў законнасьці лукашэнкаўскіх пераўтварэньняў.

**«Б.»:** *Вы едзеце ў Вашынгтон, каб выступіць перад Камісіяй па Бясьпецы й Супрацоўніцтве ў Эўропе. Чаго Вы чакаеце ад гэтага візыту?*

**Ю. Х.:** Цяжкой дыскусіі. Аднак я спадзяюся, што нам са сп. Станіславам Багданкевічам (ён таксама запрошаны на паседжаньне) удасца ўтрымаць увагу сяброў камісіі на працягу дзьвюх гадзін, прызначаных на сустрэчу.

**«Б»:** *Дзякую за гутарку і — посьпеху!*

**Гутарыў Зьм. Саўка**

## АКАДЭМІЧНАЕ ЖЫЦЬЦЁ

### НОВЫЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ Ў АДУКАЦЫІ

У папярэднім нумары «Беларуса» мы паведамлялі пра стварэньне Народнага Ўнівэрсытэту й Беларускага Калегіюму — першых у Беларусі вышэйшых навучальных установаў, якія не залежаць ад дзяржавы.

Нядаўна стала вядома, што Таварыства Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны выступіла зь ідэяй зарганізаваньня Беларускага Нацыянальнага Ўнівэрсытэту. Таксама ўзьнік аргкамітэт стварэньня Каталіцкага Ўнівэрсытэту.

### «ГІСТОРЫЯ МАГІЛЁВА: МІНУЛАЕ Й СУЧАСНАСЬЦЬ»

Міжнародная навуковая канфэрэнцыя з такой назвай прайшла ў Магілёве 20—22 траўня. Арганізатарамі канфэрэнцыі сталі Ўправа Культуры Магілёўскага Гарвыканкаму, Музэй Гісторыі Магілёва й Магілёўскі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт.

Сярод 50 дакладаў, рэпрэзэнтаваных дасьледнікамі зь Беларусі, Нямеччыны, Польшчы, Расеі, Латвіі, Украіны й ЗША былі адчытаньні супрацоўнікаў БІНІМу спн. Зоры Кіпель (прысьвечаны гораду Рэчыцы, які ўваходзіў у Магілёўскую губэрню) і др. Вітаўта Кіпеля («Магілёўшчына ў эміграцкім друку і ў бібліятэках ЗША»).

### КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў БЕЛАСТОКУ

18—19 ліпеня Згуртаваньне Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» сумесна зь Беларускім Саюзам у Польшчы (старшыня Я. Вапа) і Беларускім Гістарычным Таварыствам у Польшчы (старшыня А. Латышонак) праводзіць 3-ю Навукова-Практычную Канфэрэнцыю «Культура й адукацыя беларускага замежжа».

Да ўдзелу запрошаныя беларусы блізкага й далёкага замежжа.

У праграме канфэрэнцыі прадугледжваюцца паседжаньні, вандроўкі па беларускіх мясьцінах Беласточчыны (Гайнаўка, Супрасьль, Грабарка ды інш.), а таксама паездка на фэстываль «Басовішча», які адбудзецца 17—18 ліпеня.

Сярод іншых пытаньняў будуць абмяркоўвацца пляны супрацоўніцтва ЗБС «Бацькаўшчына» зь беларускімі арганізацыямі й суполкамі дыяспары.

### БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ВУГОРШЧЫНЕ

Гэтая краіна, у адрозьненьне ад суседняе Чэхіі, ніколі ня была месцам прыцягненьня беларускіх эмігрантаў. Аднак апошнім часам у сувязі зь дзейнасьцю Фонду Сораса (нагадаем, што сп. Сорас — вугорскага паходжаньня), а дакладней са спыненьнем дзейнасьці гэтай дабрачыннай арганізацыі ў Беларусі, у Вугоршчыну на вучобу, найперш у Цэнтральнаэўрапейскі Ўнівэрсытэт, пачалі прыяжджаць маладыя беларусы.

Цяпер у Будапэшце ёсьць і асяродак, які ў пэўным сэнсе рэпрэзэнтуе беларушчыну. Гэта катэдра ўсходнеславянскае й балцкае філялёгіі пры факультэце славістыкі Будапэшцкага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту імя Лёнарда Этвіеша.

Пачынаючы з 1994 г. тут выкладаецца беларуская мова. Для чытаньня гэтай дысцыпліны запрашаюцца выкладчыкі Берасьцейскага Ўнівэрсытэту. Свае двухгадовыя тэрміны адпрацавалі ўжо Мікола Александровіч і Валянціна Мароз. Мяркуецца, што з новага навучальнага году выкладаць беларускую мову прыедзе Мікола Новік. У будучыні плянуецца адкрыць спэцыяльнасьць «Беларуская мова й літаратура».

На рахунку беларускіх выкладчыкаў ёсьць і адно невялікае акадэмічнае дасягненьне: дыплёмніца-вугорка абараніла працу ў беларускай фразэалёгіі, а дактарантка-беларуска займаецца параўнальнымі беларуска-вугорскімі лінгвістычнымі досьледамі.

Тут трэба адзначыць, што сам загадчык катэдры Андраш Золтан займаецца вывучэньнем старабеларускай мовы, ёнжа ачаляе Вугорскую Асацыяцыю Беларусыстаў, трымае сталы кантакт зь Міжнароднай Асацыяцыяй Беларусыстаў у Менску.

Вельмі важна, што беларуская мова ў сьценах Будапэшцкага Ўнівэрсытэту ўспрымаецца як раўнапраўны й самастойны аб'ект вывучэньня. Гэта яскрава пацьвердзілася й на канфэрэнцыі «Мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім і краінах Цэнтральнай ды Ўсходняй Эўропы: аналёгіі ды пераемнасьць», якая прайшла 25—26 траўня сёлета. Зь беларускіх дасьледнікаў выступілі з дакладамі Ніна Гаўрош, Анатоль Гіруцкі, Валянціна Мароз, Сяргей Салей.

**В. М.**

### «ДУБІНКА» НА АЎКЦЫЁНЕ

Усходні Філятэлістычны Дом у Нью Ёрку выставіў на аўкцыён беларускія выданьні — два нумары савецкіх газэтаў «Партызанская дубінка» (1943) і «Раздавім фашысцкую гадзіну» (1944). Кошт кожнага нумару $50.

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва

віншуе

ведамага беларускага гісторыка,
аўтара шматлікіх грунтоўных дасьледаваньняў

**ЗАХАРА ШЫБЕКУ**

з пасьпяховай абаронаю доктарскай дысэртацыі
і 50-гадовым юбілеем
і жадае навукоўцу новых дасягненьняў
у справе вывучэньня мінуўшчыны Беларусі.

## ХРОНІКА ХРОНІКА ХРОНІКА ХРОНІКА ХРОНІКА

### ВАШЫНГТОН

26 чэрвеня сталіцу ЗША наведала дэлегацыя беларускіх арганізацыяў. У склад дэлегацыі ўвайшлі намесьнік Старшыні Рады БНР, сябра Сойму БНФ і Беларускага Гельсынскага Камітэту Сяргей Навумчык, сьвятар сабору БАПЦ у Брукліне архімандрыт айцец Аляксей (Драздоўскі) і Старшыня Нью Ёрскага Аддзелу БАЗА Віталь Зайка. Адбыліся спатканьні ў Аддзеле Па Правох Чалавека і ў Беларускім Сэктары Дзярждэпартамэнту ЗША, у Камісіі Па Бясьпецы й Супрацоўніцтве ў Эўропе Кангрэсу ЗША.

Сп. Сяргей Навумчык засярodзіў увагу на тэме этнічнай дыскрымінацыі беларусаў. Гэтая зьява ў Рэспубліцы Беларусь мае сыстэматычны характар і зрабілася часткаю дзяржаўнай палітыкі рэжыму — беларускія школы зачыняюцца, а патрабаваньні бацькоў навучаць іхных дзяцей на роднай, беларускай мове ігнаруюцца. Былі прыведзеныя факты зьбіцьця грамадзянаў Беларусі толькі за тое, што яны размаўлялі па-беларуску. Гэтыя факты зафіксаваныя незалежнай беларускай прэсай, Таварыствам Беларускай Мовы імя Скарыны, Беларускім Гельсынскім Камітэтам, праваабарончым цэнтрам «Вясна-96».

Айцец Аляксей распавёў амэрыканскім палітыкам пра сытуацыю, якая склалася ў Беларусі з прыходамі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Ён заўважыў, што, нягледзячы на гарантаваную Канстытуцыяй свабоду веравызнаньня, дзяржаўныя ўстановы аддаюць перавагу Расейскай Праваслаўнай Царкве. Вялікую занепакоенасьць выклікае праект зьменаў у Законе аб свабодзе веравызнаньня.

Сп. Віталь Зайка ўзьняў праблему атрыманьня палітычнага прытулку актывістамі беларускіх апазыцыйных арганізацыяў. Часам здараецца, што службоўцы Службы Эміграцыі й Натуралізацыі (INS) недастаткова валодаюць інфармацыяй пра сытуацыю ў Беларусі, скарыстоўваюць зьвесткі пяцігадовай даўніны й лічаць, што ў краіне пануе дэмакратыя. На гэта прадстаўнікі Дзярждэпартамэнту паведамілі, што ў бліжэйшы час Служба Эміграцыі й Натуралізацыі атрымае пакет інфармацыі з аб'ектыўным аналізам становішча ў Беларусі.

Прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў мелі таксама неафіцыйнае спатканьне з паслом ЗША ў Беларусі спадаром Дэніэлам Спэкгардам. Ён сказаў, што не жадаў пакідаць Беларусь, аднак Лукашэнка прымусіў яго гэта зрабіць. Цяпер, адзначыў Спэкгард, ЗША й эўрапейскія краіны выпрацоўваюць агульную тактыку паводзінаў, мэта якой — пазьбегчы паўтарэньня падобных дзеяньняў ня толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах з падобным рэжымам.

**Г. Прыгара**

### КЛІЎЛЕНД



Парафія Жыровіцкае Божае Маці штогоду адзначае сьвята Дзень Маці. Сёлета гэтая ўрачыстасьць адбылася 10 траўня.

Пасьля сьв. літургіі настаяцель П. Страпко й сьвятар Дзь. Беленькі адправілі малебен маткам у суправаджэньні царкоўнага хору пад кіраўніцтвам Аляксандра Яноўскага.

Прыняцьцё й гарачы абед, які спансаравала парафія, адбыўся ў царкоўнай залі. Перш за сталы, прыбраныя кветкамі й запаленымі сьвечкамі, пасадзілі матак. Справа абслугі гэтым разам прыпала на мужчын.

У часе абеду старшыня Оля Дубаневіч прывітала матак зь іхным сьвятам, падзякавала ім за вялікі клопат аб сваіх сем'ях, пажадала ім добрага здароўя, шчасьлівага, весёлага й багатага жыцьця на будучыню, а ў канцы дзьвюм найстарэйшым маткам Юлі Палонскай і Марыі Гумен уручыла кветкі ад парафіі.

У часе імпрэзы пад акардэон Хведара Паўлаўца прасьпявалі беларускія песьні.

**К. Полацкі**

### ГАЙЛЕНД ПАРК, Н.ДЖ.

Прастольнае сьвята ў мясцовай царкве Жыровіцкае Божае Маці адбылося 17 траўня пры ўдзеле архіяпіскапа БАПЦ Мікалая (на здымку), які прыбыў на ўрачыстасьць з Таронта.



*Урачыстая служба 17 траўня. У цэнтры архіяпіскап Мікалай і настаяцель царквы айцец Васіль.*

### НЬЮ ЁРК

21 чэрвеня ў царкве сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне прайшло сьвяткаваньне 50-х угодкаў узнаўленьня дзейнасьці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Пасьля ўрачыстай багаслужбы ў парафіяльнай залі адбыўся сьвяточны сход.

* * *

З 12 да 19 ліпеня праходзіць Тыдзень Паняволеных Народаў, які сёлета праводзіцца ўжо 40-ы раз.

Як звычайна, акцыі Тыдня распачаліся набажэнствам за паняволеныя народы ў катэдры сьв. Патрыка. Перад імшой а. Джон Фэры асьвяціў сьцягі паняволеных народаў, сярод якіх быў і беларускі.

Наступна адбылося шэсьце прадстаўнікоў Беларусі, Тыбэту, Віетнаму, Кітаю, Усходняй Прусіі, Эстоніі, Латвіі, Кубы па 5-й Эвэню ў Цэнтральны Парк, дзе прайшоў мітынг.

Падчас Тыдню Паняволеных Народаў маюць адбыцца яшчэ дзьве імпрэзы: 16 ліпеня дэманстрацыя за свабоду перад будынкам ААН і 19 ліпеня багаслужба й прыняцьцё ў лютэранскай царкве на Лексынгтан Эвэню.

### ЧЫКАГА

Вялікая група беларусаў, што гуртуюцца вакол Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, сабралася 29 сакавіка, каб адзначыць 80-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі й абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Урачыстасьць адбылася ў Беларускім Рэлігійна-Культурным Цэнтры на вуліцы Фулертан. Пасьля сьвяточнага багаслужэньня ў грэка-каталіцкай царкве, якое правёў айцец Джон МакДонэл, адбыўся ўрачысты абед. Уступнае слова сказаў Нікадэм Жызьнеўскі. Шмат хто з прысутных падзяліўся сваімі ўспамінамі, а таксама меркаваньнямі пра сучаснае становішча на радзіме й ролю эміграцыі ў ажыцьцяўленьні ідэалаў БНР.



***На здымку:*** *у залі сьвяткаваньня (зьлева) Вітаўт Рамук, Вера Рамук, Ванкарэм Нікіфаровіч, Ірэна Панунэвіч, Зоя Нікіфаровіч, Нікадэм Жызьнеўскі.*

25—26 ліпеня ў Вільні адбудзецца

**ІІ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ БАЛТЫІ**

На зьезд запрашаюцца беларусы зь Летувы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, Каралявеччыны (Калінінградзкай вобласьці) і Беларусі.

Мэта зьезду — наладзіць больш сьціслыя кантакты паміж беларусамі названых краінаў, акрэсьліць галоўныя напрамкі дзейнасьці, пазнаёміцца з праблемамі, зь якімі сутыкаецца беларускі рух у Прыбалтыцы.

На зьезьдзе прадугледжаная багатая культурная праграма.

**З радасьцю будзем вітаць і беларусаў зь іншых краінаў, якія пажадаюць прыехаць на нашую імпрэзу ў сваю гістарычную сталіцу Вільню.**

Заявы й прапановы наконт правядзеньня зьезду накіроўвайце на адрас рэдакцыі альбо тэлефануйце: **61 65 32, 72 55 95**

**Арганізацыйны камітэт**

ХРОНІКА ХРОНІКА ХРОНІКА ХРОНІКА ХРОНІКА

## ВЯЛІКАЯ БРЫТАНІЯ

# УГОДКІ БНР

Сёлета Лёндан адзначыў Сьвята 25 Сакавіка асабліва ўрачыста й прадстаўніча. На тое было некалькі прычынаў. Неспрыяльнае палітычнае становішча ў Беларусі зрабіла практычна немагчымымladжаньне такога вялікага сьвяткаваньня на Бацькаўшчыне.

Да гэтай даты было прымеркаванае й адзначэньне 50-х угодкаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытані (ЗБВБ) — найбуйнейшай беларускай арганізацыі ў краіне.



*На здымку (зьлева): Л. Міхалюк, Г. Сурмач, І. Сурвілла, Р. Гарэцкі, М. Міцкевіч.*

Сярод гасьцей былі запрошаныя старшыня Рады БНР І. Сурвілла, старшыня Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» Г. Сурмач, прэзыдэнт «Бацькаўшчыны» Р. Гарэцкі, старшыня Дзіцячага Фонду «Сакавік» М. Міцкевіч, намесьнік старшыні БНФ В. Вячорка, прадстаўнікі Згуртаваньня Беларусаў Францыі «Хаўрус» М. Навумовіч і В. Шыманец, галоўны рэдактар газэты «Наша Ніва» С. Дубавец.

У той-жа час у Лёндане на запрашэньне брытанскага ўраду знаходзілася дэлегацыя беларускіх палітыкаў: сьпікер Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га склікаьня С. Шарэцкі, яго намесьнік Г. Карпенка, былы сябра Канстытуцыйнага Суду Беларусі А. Пастухоў, намесьнік старшыні БНФ Ю. Хадыка, дэпутат ВС ген. У. Савічаў, якія таксама далучыліся да сьвяткаваньня.

25 сакавіка адбылося афіцыйнае прыняцьцё ў *Lancaster Park Hotel*. На ім прысутнічалі прадстаўнікі ўрадавых і грамадзкіх арганізацыяў Вялікае Брытаніі, Украіны, Польшчы, Летувы ды іншых краінаў, у тым ліку былы брытанскі амбасадар у Беларусі сп. Д. Эвэрард, прадстаўнік брытанскага *East—West Center* др. І. Эліат.

Адкрыла прыняцьцё старшыня ЗБВБ Л. Міхалюк. У прамовах І. Сурвіллы, В. Вячоркі, С. Шарэцкага гучала думка пра гістарычную сувязь паміж падзеямі 80-гадовай даўніны й сёньняшнім днём Беларусі.

28 сакавіка ў царкве сьвятых Пятра й Паўла а. А. Надсон адслужыў малебен за беларускі народ, пасьля чаго ў Беларускім Музэі й Бібліятэцы імя Ф. Скарыны адбылася ўрачыстая акадэмія.

Зь віншавальным словам выступілі спн. Л. Міхалюк, сп. Р. Гарэцкі, спн. Г. Сурмач, а. А. Надсон, спн. М. Міцкевіч, сп. С. Шарэцкі, сп. В. Вячорка, праф. Ю. Хадыка й выканальнік абавязкаў старшыні Англа-Беларускага Таварыства сп. Г. Пікарда. Сакратар Управы ЗБВБ др. І. Гурло прычытала віншавальныя лісты ад беларускіх арганізацыяў і прыватных асобаў з розных частак сьвету. Сп. П. Шаўцоў зрабіў агляд падзеяў 1917—18 гг., а ведамая паэтка й перакладчыца спн. В. Рыч разам з спн. Г. Какачэ прачыталі паэтычныя творы, прысьвечаныя Акту 25 Сакавіка.

Прысутныя не абмежаваліся адно сьвяточнымі прамовамі: былі сабраныя подпісы пад пратэстам супраць палітычных рэпрэсіяў у Беларусі. ЗБВБ зарганізавала шэраг сустрэчаў для беларускіх гасьцей з брытанскімі й міжнароднымі праваабаронччымі арганізацыямі, такімі як *Amnisty International, East—West Center, Article 19, Freedom Forum, Index on Censorship, Westminster Foundation for Democracy*.

Да сьвяткаваньняў была прымеркаваная выстава, зладжаная ў «Скарынаўцы»: госьці маглі пабачыць мэмарандум Ураду БНР на Вэрсальскай канфэрэнцыі, нататкі В. Захаркі, пашпарты й маркі БНР, беларускія газэты «Гоман» і «Варта» ды іншыя цікавыя рэчы й дакумэнты, зьвязаныя з гісторыяй БНР.

**Павел Шаўцоў**

## ЗЬЕЗД ЗБВБ

6 чэрвеня 1998 г. у Лёндане адбыўся 52-і агульны зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ). На зьезд сабраліся беларусы зь Лёндану, Манчэстэру, Братфорду ды іншых мясьцінаў. Сярод прысутных было шмат маладых людзей, якія стала ці часова знаходзяцца ў Злучаным Каралеўстве.

На пачатку зьезду са справаздачай выступіла старшыня ЗБВБ спн. Л. Міхалюк, якая распавяла аб асноўных напрамках дзейнасьці ЗБВБ у 1997–98 гг.: арганізацыя палітычных і культурных мерапрыемстваў, наладжваньне й падтрымка сувязяў зь беларускімі арганізацыямі іншых краінаў, гаспадарчыя справы.

Сярод апошніх найважнейшаю была падрыхтоўка да продажу Беларускага Дому ў Манчэстэры ў сувязі з тым, што мясцовая беларуская суполка ўжо фактычна не існуе й большасьць беларусаў цяпер жыве ў Паўднёвай Англіі.

Бальшынёю галасоў дзейнасьць Галоўнае Ўправы была ўхваленая й спн. Л. Міхалюк была пераабраная на другі тэрмін.

## 40-я ГАДАВІНА ПРЫХОДУ Ў СТОК-ОН-ТРЭНТ

Горад Сток-он-Трэнт — цэнтар керамічнай вытворчасьці ў сярэдняй Англіі. Пасьля Другой сусьветнай вайны тут пасяліліся шмат беларусаў, якія ў 1958 г. заклалі праваслаўны прыход Жыровіцкае Божае Маці. Нажаль, у прыходзе ніколі ня было свайго сьвятара. Аднак багаслужбы адпраўляліся рэгулярна, раз на месяц, прыежджымі сьвятарамі — а. Арсенем Кажэнеўскім, а. Міхалам Іскрыцкім, а. Паўлам Вялікім, а. Афанасіем ды іншымі.

Апошнім часам у прыходзе зьявіўся свой сталы сьвятар — а. Аляксандар Сідаровіч, які разам з прыхаджанамі пастанавіў адсьвяткаваць 40-годзьдзе прыходу. На сьвята, якое адбывалася 10 траўня, прыехала шмат нашых суродзічаў зь іншых беларускіх прыходаў — зь Лёндану, Манчэстэру й Вулвэргэмптану, а таксама а. Міхал Іскрыцкі й а. Крыстафэр Роджэрс.

Урачыстая падзячная служба была адпраўленая ў англіканскай царкве (прыход ня мае ўласнай царквы, і браты-хрысьціяне дазваляюць беларусам праводзіць праваслаўныя службы). А. Міхал прамовіў казань. Хораша сьпяваў хор зь Лёндану. Пасьля багаслужбы адбылося багатае прыняцьцё, да зарганізаваньня якога найбольш прыклалася дачка а. Аляксандра — Элеанора. Пры бясэдзе гучалі песьні «Люблю наш край», «Мы бойкая моладзь», «Пагоня».

**Міхась Швэдзюк**

## КАНАДА

20 чэрвеня адбылося **10-е, юбілейнае паломніцтва** да Беларускага Памятнага Комплексу ў Мідлендзе, непадалёк Таронта, якім урачыста адзначаліся 10-я ўгодкі пабудовы й асьвячэньня Беларускага Крыжа й 40-я ўгодкі сьвятарства дастойнага айца А. Надсона, які ў свой час асьвяціў Беларускі Крыж ды Помнік ахвярам камуністычнага тэрору ў Беларусі.

Сярод паломнікаў былі старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла з Атавы, дырэктар Фундацыі імя П. Крэчэўскага Францішак Бартуль зь Нью Ёрку, Кацярына Вініцкая з Лос Анджэлесу, Нікадэм Жызьнеўскі з Чыкага, старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады Мікола Ганько з Таронта, заступнік старшыні ЗБК Раман Кардонскі, сп. Віктар Касьцюкевіч з Пэры Саўнд-Слуцку, Валянціна Сямашка з Бэры.

Багаслужбу адпраўляў а. А. Надсон у суслужэньні а. Бэнэдыкта Алексейчука з царквы сьв. Кацярыны ды а. Джэймза Кэлі з Бэры.

У набажэстве была аддадзена пашана памяці кіраўніка пабудовы Беларускага Крыжа Вінцэнта Жук-Грышкевіча, паэткі Натальлі Арсеньневай, кіраўніка прошчы а. Джэймза Фарэла, Янкі Сурвіллы ды Морыса Мэрдака.

Пасьля багаслужбы працэсія пад сьпеў акафісту да Найсьвяцейшай Багародзіцы ўзьнялася на ўзгорак да Беларускага Памятнага Комплексу.

Затым у памяшканьні каардынатара паломніцтва др. Раісы Жук-Грышкевіч прайшоў сход паломнікаў.

**Р. Жук-Грышкевіч**



*У часе паломніцтва да Беларускага Крыжа ў Канадзе*

У нядзелю 19 ліпеня
ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта
*524 St. Clarens Avenue, Toronto, Ontario*
адбудзецца

**АКАДЭМІЯ ПАМЯЦІ ДОКТАРА ВІТАЎТА ТУМАША**

Кантакт па тэл. 705-725-8654

# АГЛЯД ВЫДАНЬНЯЎ

**Беларускія летапісы і хронікі / Укладальнік Ул. Арлоў. Мн.: Беларускі кнігазбор, 1997. 432 с.**

У 70—80-х гадох для сьведамых беларусаў на бацькаўшчыне існавала некалькі культавых кніг, якія нельга было зьвесьці адно да паняцьця «антысавецкая літаратура», твораў пра ГУЛАГ або літаратуры «адтуль», як акрэсьлівалася ўсё, прывезенае ад нашых эмігрантаў. Маюцца на ўвазе дасьледаваньне В.Чамярыцкага «Беларускія летапісы як помнікі літаратуры», два тамы летапісаў — нашых летапісаў, — выдадзеныя ў Расеі, і «Хрэстаматыя старажытнай беларускай літаратуры», укладзеная А. Коршунавым.

Кніга «Беларускія летапісы і хронікі», на нашу думку, таксама мае ўсе падставы стацца культавай: упяршыню ў сучаснай беларускай мове выдрукаваныя «Хроніка Быхаўца», «Летапіс вялікіх князёў літоўскіх», Баркулабаўскі й Віцебскі летапісы, Магілёўская хроніка Сурты й Трубніцкага, старонкі рыцарскага эпасу. Грунтоўныя камэнтары, уводны артыкул В. Чамярыцкага, цікавыя ілюстрацыі — і ўвесь наклад у 6000 асобнікаў імгненна зьнік з паліцаў кнігарняў.

Карыстаючыся з той нагоды, што ў Нью Ёрку на дасьледніцкай стыпэндыі зараз знаходзіцца адзін зь перакладчыкаў гэтага тому Зьміцер Саўка, вырашыў задаць яму некалькі пытаньняў у сувязі з выхадам кнігі.

**Лявон Юрэвіч:** *Кніга выдадзена ажно ў 1997 г., але пра асобныя пераклады, у прыватнасьці, пра зроблены табой пераклад «Хронікі Быхаўца», чуткі хадзілі яшчэ на самым пачатку 90-х.*

**Зьміцер Саўка:** Сапраўды, праца над «Хронікаю Быхаўца» пачалася яшчэ ў 1989 г. Ужо ў 1992 г. у «Полымі» зьявіўся часопісны варыянт (№№10—12). Выдаць гэты-ж пераклад «Хронікі Быхаўца» мелася выдавецтва «Юнацтва» ў высокатыражнай сэрыі «Школьная бібліятэка» — нават ганарар заплацілі. Аднак чамусьці гэты плян ня зьдзейсьніўся.

**Л. Ю.:** *Значыць, гатовая праца праляжала 5 (!) гадоў?*

**З. С.:** Так, ня толькі пераклад «Хронікі Быхаўца», але й увесь том «Беларускія летапісы і хронікі» затрымваўся, перастаўляўся кіраўніцтвам выдавецтва «Мастацкая літаратура» на наступны год, а потым яшчэ на год...

**Л. Ю.:** *...пакуль выданьне кнігі ўвогуле ня было фактычна забаронена.*

**З. С.:** Менавіта. Шчыра кажучы, я ўжо й не спадзяваўся пабачыць свае працы ў паўнавартасным — кніжным варыянце.

**Л. Ю.:** *Адным словам, Ты задаволены? Ці усё-ж аўтарскі варыянт перакладу й выдрукаваны розьняцца?*

**З. С.:** Па-першае, акрэсьленьне пераклад ня зусім дакладнае. Старабеларуская й сучасная беларуская мовы не настолькі адрозьніваюцца, каб рабіць менавіта пераклад. Я ставіў сабе за мэту хутчэй зрабіць адаптацыю, пакінуўшы са старабеларускага тэксту ўсё, што можа быць зразумелае сучасным чытачом без тлумачэньня. Часам пакідаў нават тыя словы, значэньне якіх неспэцыялісту будзе няясным. Аднак мне шкада было страціць гэтыя пэрлінкі, якімі магла-б узбагаціцца й сучасная мова. Трэба сказаць, у такіх выпадках я ўсюды ў зносках падаваў сучасныя адпаведнікі старабеларускіх словаў. Па-другое, хацеў-бы выказаць падзяку ўкладальніку тома Ўладзімеру Арлову, які вельмі чула й тактоўна паставіўся да мае працы, усьведамляючы, што воля аўтара — першаснае.

**Л. Ю.:** *У рэцэнзіі на кнігу ў газэце «ЛіМ» (1998, 6 сакавіка. «Шляхі ў вяках»)* *Язэп Янушкевіч заўважае: «Слушную ўцэлым ідэю (падзяліць тэкст на разьдзелы й падаць да кожнага зь іх загалоўкі) перакладчык здрабніў: няпоўную сотню кніжных старонак (96) ён распалосіў 67 загалоўкамі. Нічога ня будзе дзіўнага, калі наступныя выдаўцы нашых летапісаў узбуйняць «Хроніку Быхаўца», пакінуўшы дзясятак-другі загалоўкаў, або зусім адмовяцца ад вольнага абыходжаньня з гістарычнай першакрыніцай».*

**З. С.:** Так, аўтар «Хронікі Быхаўца» не падзяліў тэксту на разьдзелы. Аднак падобны падзел вельмі часта практыкаваўся ў беларускім летапісаньні. Відаць, гэтая акалічнасьць і дала падставу Ўл. Арлову прапанаваць мне падзяліць «Хроніку» на разьдзелы так, як гэта зроблена ў адпаведных, паралельных месцах тых летапісаў, якія сталіся асноваю для складаньня самой «Хронікі». Я пагадзіўся з такім падыходам, тым больш што мы ня былі першымі — падобную працу пры перакладзе «Хронікі Быхаўца» на летувіскую мову ажыцьцявіў Ясас. Дарэчы, ягоная інтэрпрэтацыя некаторых «цёмных месцаў» у «Хроніцы» (камэнтары да летувіскага перакладу «Bychovco kronika») заслугоўвае, на маю думкі, вельмі пільнай увагі нашых гісторыкаў. Там ёсьць нямала спрэчнага, аднак прааналізаваць камэнтары Ясаса было-б варта.

**Л. Ю.:** *Я. Янушкевіч падкрэсьлівае, што Ты «распалосіў» тэкст. Інакш кажучы, падзяліў тэкст на занадта дробныя разьдзелы.*

**З. С.:** Тут я ішоў за практыкай беларускіх летапісцаў, за старабеларускай традыцыяй. Першая палова «Хронікі» не арыгінальная — яна складзеная на аснове іншых, ранейшых тэкстаў, якія ўжо былі падзеленыя на часткі. Таму мне заставалася толькі перанесьці назвы гэтых разьдзелаў у тэкст «Хронікі». Такім чынам, «распалосілі» летапісы самі храністы... Дарэчы, напрыклад, у «Летапісцы Вялікага Княства Літоўскага й Жамойцкага» ёсьць разьдзелы, якія складаюцца ўсяго з двухтрох сказаў. І яшчэ. Як вынікае з выхадных дадзеных кнігі, Я. Янушкевіч зьяўляецца «адказным за выпуск». Такім чынам, з кнігаю ён пазнаёміўся значна раней за чытачоў і калі ён быў сапраўды перанятым клопатам пра зьмест кнігі, то меў магчымасьць сустрэцца са мною ці прынамся затэлефанаваць і высьветліць усе пытаньні.

**Л. Ю.:** *Ці чытач, загарнуўшы апошнюю старонку, можа сказаць, што нарэшце ведае нашыя летапісы й хронікі? Ці яшчэ багата вартаснага засталося па-за межамі выданьня? У прыватнасьці, я спадзяваўся пабачыць беларускі варыянт «Аповесьці пра Трыстана» ў перакладзе Міколы Рамаyоўскага, бо ў томе ёсьць разьдзел «Рыцарскі эпас», які цяжка ўявіць сабе без «Трыстана».*

**З. С.:** У том трапілі ледзь ці ня самыя яркія старонкі беларускага летапісаньня й старабеларускага пісьменства наагул. Аднак незраўнёна больш засталося за межамі выданьня. Мне пэўна вядома, што ўжо ідзе праца над такім буйным і складаным для перакладу творам, як «Александрыя».

**Л. Ю.:** *То мэем падставы спадзявацца, што выданьне нашай сярэднявечнай спадчыны знойдзе працяг. Дзякуй за гутарку й памыснасьці ў працы.*

**Historical Dictionary of Belarus. Boston: Scarecrow Press, 1998.**

Толькі што выйшаў «Гістарычны слоўнік Беларусі», апрацаваны др. Янкам Запруднікам. Кніга мае разьдзелы: гістарычная храналёгія (ад пачатку да нашых дзён); уводны артыкул — агляд гісторыі Беларусі; слоўнікавая частка (больш за 400 артыкулаў і біяграфічных даведак); бібліяграфія (найперш англамоўная); дадатак «Валадары Беларусі» (ад Рагвалода да Лукашэнкі). У кнізе дзьве карты: на адной паданыя найбуйнейшыя гарады, другая паказвае стратэгічнае становішча Беларусі ва Ўсходняй Эўропе.

Кніга Запрудніка выйшла ў сэрыі «Эўрапейскія гістарычныя слоўнікі» (№ 28). Такога роду даведніцкую літаратуру набываюць шмат якія бібліятэкі. На сёньняшні дзень гэта адзінае англамоўнае выданьне, зь якога можна атрымаць інфармацыю пра гістарычную й сучасную Беларусь. У кнізе зьмешчаны даведкі пра цэнтральныя асобы беларускай гісторыі й бягучай палітыкі; артыкулы пра археалёгію, асьвету, гістарыяграфію, дэмаграфію, культуру, літаратуру, мастацтва, рэлігію, эканоміку, беларускую нацыянальную ідэю, беларускую эміграцыю; плямёны, галоўныя гарады, рэкі; рэфэрэндумы, парлямэнт, правы чалавека і г. д.

У слоўніку зьмешчаныя два беларускія альфабэты — кірылічны й лацінічны. Усюды ў кнізе ўжываецца беларускі лацінічны альфабэт. Слоўнік можа быць дапаможнікам для тых, хто, асабліва ў Беларусі, слаба азнаёмлены зь беларускай лацінкай.

Кніга напісаная папулярным стылем. Яна будзе карысная ў сем'ях, дзе нашчадкі амэрыканцаў і канадыйцаў беларускага паходжаньня цікавяцца краем сваіх продкаў. «Гістарычны слоўнік Беларусі» можа быць таксама карысным для тых, хто вывучае ангельскую мову й хоча карыстацца ёю ў інфармаваньні пра Беларусь.

Цана кнігі — 55 даляраў. Яе можна выпісаць з выдавецтва: **Scarecrow Press, 4720 Boston Way, Lanham, MD 20706. Tel.:1-800-462-6420.**

**Беларускі Гістарычны Агляд. Том 4 (1997). Сшыткі 6—7. 318 с.**

Гэты часапіс стаў першым і пакуль адзіным у Беларусі навуковым пэрыядычным выданьнем па гісторыі. Заснаваны ў 1994 годзе, ён імкнецца спрыяць разьвіцьцю айчыннай гістарыяграфіі шляхам публікацыі найноўшых досьледаў, перакладу працаў найбольш аўтарытэтных заходніх вучоных, рэфэратаў і аглядаў літаратуры, якія знаёмяць беларускага чытача з дасягненьнямі й тэндэнцыямі гістарычнай навукі сьвету.

Часапіс ведаюць ня толькі ў Беларусі. Яго атрымвае больш за 50 найбуйнейшых бібліятэк Эўропы й Амэрыкі. Станоўчыя рэцэнзіі ды водгукі на БГА друкаваліся ў замежнай пэрыёдыцы — у часапісах «Zapiski Historyczne», «Studia Historyczne», «Lituano-Slavica Poznaniensia», «Przegląd Wschodni», «Вопросы истории», «Генэза» ды інш. Аднак сярод беларусаў гэтае выданьне застаецца малавядомым.

У чарговы нумар БГА сярод іншага ўвайшлі артыкулы «У пошуках Сярэднявечча» (Г. Сагановіч), «Краёвасьць у беларускай і літоўскай гісторыі» (А. Смалянчук), «Палякі — беларусы: узаемныя стэрэатыпы» (Р. Радзік), «Вайна 1921 году й Беларусь: вызваленьне ці акупацыя?» (К. Маль).

У рубрыцы перакладаў зьмешчаны мэтадалягічныя тэксты Эдварда Кара й Лорэнса Стоўна. Агляданы артыкул Губэрта Лашкевіча «Беларусь і беларусы ў польскіх падручніках па гісторыі» адкрывае новую рубрыку «Вачыма суседзяў». У «Архіваліях» — працяг успамінаў Францішка Кушаля «Спробы арганізацыі Беларускага Войска пры нямецкай акупацыі Беларусі». Амаль палова нумару адведзеная пад рэцэнзаваньне новай літаратуры, а таксама зьвесткі з навуковага жыцьця.

Зацікаўленыя могуць набыць часапіс:

у Вольным Сьвеце — праз Лявона Юрэвіча **1673 W 2nd St., Brooklyn, NY 11223 USA;**

у Беларусі — праз рэдакцыю: **«Беларускі Гістарычны Агляд», вул. Ф. Скарыны, 1, 220072 Менск, BELARUS.**

**Ryszard Kapuściński. Imperium. London: Granta Books, 1994.** [Пераклад з польскай]

Аўтар кнігі — ведамы журналіст — нарадзіўся ў 1932 г. у Пінску, дзе настаўнічалі ягоныя бацькі . Яму тройчы давялося падарожнічаць па імпэрыі — Савецкім Саюзе; вынікам гэтых падарожжаў і стала кніга.

Першае сутыкненьне з савецкай рэчаіснасьцю адбылося ў родным Пінску ў 1939 г. — прыйшлі «освободители» з усходу. Павальныя арышты. Вагоны, набітыя людзьмі, якіх вывозяць на Поўнач і ў Сібір. «Дэпартацыі адбываліся ўночы. Разьлік быў на неспадзеўку. Чалавек сьпіць. Але раптам яго будзяць крыкі, перад ім узьнікаюць суворыя твары салдатаў і энкавэдыстаў. Яго выцягваюць з ложка, штурхаюць прыкладамі й загадваюць выходзіць з дому...»

На пачатку 90-х аўтар адведаў Беларусь, прысутнічаў госьцем на зьезьдзе Беларускага Народнага Фронту, на які яго прывёў Васіль Быкаў. Аўтар вельмі станоўча адгукаецца пра нашага пісьменьніка.

Р. Капусьціньскі запыняецца й на нацыянальнай палітыцы расейцаў у Беларусі: «Стратэгічна важнае становішча Беларусі прымушала цароў і бальшавікоў праводзіць мэтадычную, брутальную й безагляднаю русыфікацыю. У 30-я гады ўся беларуская інтэлігенцыя была або растраляная, або дэпартаваная. Гэтая рэзьніца была зарганізаваная сябрам Берыі — Цанавам... Маскве важна было, каб насельніцтва Беларусі гаварыла па-расейску...»

**М. Шведзюк**

## Мастоўскі веснік

У Мастох (Гарадзеншчына) выходзіць незалежная газэта «Мастоўскі веснік». Выданьне вядзе бескампрамісную барацьбу зь мясцовым постсавецкім начальствам, выкрываючы махінацыі й злоўжываньні. На старонках газэты асьвятляецца дзейнасьць нацыянальнага актыву Мастоўшчыны.

## ЗМАГАР

Напрыканцы вясны выйшаў першы нумар газэты «Змагар» — выданьня БНФ у Слоніме. Як стала вядома апошнім часам, у пасьляваенны пэрыяд на Слонімшчыне дзейнічала нацыянальнае антысавецкае падпольле. Актывізацыя беларускіх сілаў у гэтым рэгіёне — годны працяг дзейнасьці беларускіх патрыётаў 40-х гадоў.

## ПОШТА

# ДАВАЙЦЕ БАГАЦЕЦЬ!

Аднаго разу я стаў сьведкам спрэчкі двух шаноўных беларусаў. Сэнс спрэчкі ня памятаю, але тады ўпяршыню пачуў, як адзін спытаў у другога: «Калі ты такі разумны, то чаму не багаты?» Але на маё пытаньне, чаму-ж беларуская парафія ў Таронта змушаная мясьціцца ў будынку, які мала пасуе да патрэбаў царквы, — той самы чалавек адказаў, што мы, беларусы Канады, бедныя. Калі-ж я, паўтарыўшы ягоныя словы пра розум і багацьце, канстатаваў, што мы дурні, — той чалавек моцна пакрыўдзіўся.

Ня зьбіраюся нікога пакрыўдзіць. Але ўпэўнены, што час размовы менавіта пра матар'яльнае становішча беларускае дыяспары даўно насьпеў. Прачытаўшы гэта, хтосьці, магчыма, падумае: «Ага, і гэтыя хоча залезьці ў маю кішэню». Зусім не, мне вашых грошай ня трэба. Але становішча, якое назіраецца цяпер у беларускіх асяродках, мяне зусім не задавальняе. А вас?

Апошнім часам шмат беларусаў едзе ў Канаду й ЗША. Можна спрачацца, добра гэта ці не, але гэта ёсьць. І як мы выкарыстоўваем факт зьяўленьня гэтых людзей? У бальшыні выпадкаў ніяк, хоць едуць сюды пераважна людзі з высокай асьветай, і ніхто зь іх тут яшчэ не загінуў, але для нас, для беларусаў, яны вельмі часта губляюцца. І, перакананы, губляюцца праз нашую неабачлівасьць.

Што цікавіць новапрыбылых у першую чаргу? Вывучэньне ангельскае мовы, пошукі працы, а тых, хто прыехаў як уцякач, яшчэ й здабыцьцё адпаведнага статусу. Вядома, з мовай справа асабістая, са статусам мы дапамаглі шмат каму, але вось з пошукам працы...

Ведаю, што ня ўсе падзяляюць маю думку, але ўпэўнены, што зусім не абавязкова ўсім новапрыбылым беларусам біцца як рыба аб лёд, а гэта выпадае зазнаць амаль кожнаму, хто прыяжджае ў чужую краіну. Мне таксама прыйшлося шмат месяцаў шукаць працу. Нарэшце мяне ўзялі праграмным аналітыкам у адну з самых вядомых кампаній Таронта. І тут я быў літаральна забіты, калі даведаўся, што сын аднаго з нашых беларусаў працуе ў гэтай галіне, і ніхто нават не прапанаваў мне сваю дапамогу! А ўсе толькі назіралі: як там Кардонскі? Яшчэ трапечацца ці ўжо патануў? А гэтыя людзі ведалі мяне ўжо ня першы год...

Нашая галоўная праблема ў тым, што ў нас ёсьць свае беларускія асяродкі, але грамады — адзінае беларускае сям'і ў Паўночнай Амэрыцы — няма. Што маю на ўвазе? Найперш тое, што ў нас ня створаны агульны каардынацыйны цэнтар дапамогі новым эмігрантам. Калі мы дапаможам ім з працаўладкаваньнем, то — ня ўсе, вядома, але бальшыня — так і застануцца з намі, а заможны чалавек дасьць больш грошай і на царкву, і на арганізацыю, і на газэты ды кніжкі. І рабіць гэта трэба тэрмінова. Адным зь першых крокаў у гэтым кірунку можа стаць стварэньне агульнае базы дадзеных.

**Раман Кардонскі**

***Ад рэдакцыі:*** *У красавіцкім нумары (№453) мы ўжо зьмясьцілі аб'яву адпаведнага зьместу. Улічваючы прапанову сп. Р. Кардонскага, уважаем за мэтазгоднае дасылаць зьвесткі аб працоўных месцах у ЗША на адрас газэты, а ў Канадзе — на E-mail* ***romank@-unitrax.com*** *альбо на адрас:* ***R. Kordonski, 200 Gateway Blvd., Apt 811, Toronto, ON, M3C 1B5, CANADA***

*Дзень добры,*
*вельмішаноўная рэдакцыя*
*газэты «Беларус»!*

Піша вам беларускі калекцыянэр. Нядаўна я даведаўся, што беларускія суполкі ў ЗША й Вялікай Брытаніі ў розныя часы выдавалі паштовыя маркі. Мне ўдалося знайсьці сэрыю марак, выдадзеную ў 1960 г. Згуртаваньнем Беларускае Моладзі ў Амэрыцы. Таксама я ведаю пра выпуск маркі, прысьвечанай 450-м угодкам друку на беларускай зямлі; яе выпусьціў БІНІМ у 1972 г.

Я быў-бы вельмі ўдзячны, калі-б вы дапамаглі знасьці астатнія беларускія маркі, выдадзеныя на эміграцыі ў розныя гады. Калі гэта магчыма, я-б здолеў распаўсюдзіць іх на радзіме сярод калекцыянэраў і сьведамых беларусаў, якія цікавяцца нашай гісторыяй і культурай.

**Андрэй Новікаў**
г. Полацк 211408
вул. Невельская 55-54
BELARUS

## РОСШУКІ

Станіслаў Чаховіч шукае сваяка **Чаховіча Антона, Андрэевага сына**, які прыехаў зь Беларусі ў Амэрыку ў 1910 г. Весткі ў гэтай праве просьба накіроўваць на адрас: *S. Chakhovich 226 South Bull Str., Columbia, SC 29205, tel. 803-779-0240, e-mail: chakhom9@spanky.badm.sc.edu.*

## ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД

**Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч**

*Сярод эміграцыйных пэрыядычных выданьняў не апошняе месца займалі гумарыстычныя часапісы, газэты — ажно 15! І гэта калі ня ўлічваць асобныя дадаткі, разьдзелы, рубрыкі ў «сур'ёзных» выданьнях. Пароды, фэльетоны, эпіграмы — як палітычныя, гэтак і на літаратурныя тэмы — хадзілі па руках ужо ў лягерох ДП, прыклейваліся да сьценаў баракаў, дасылаліся па пошце. Аўтарамі іх былі ня толькі Ул. Клішэвіч, Алесь Салавей, Янка Золак, Кастусь Акула — знаныя майстры гэтага жанру. Шмат якія псэўдонімы ўжо ніколі не раскрыюцца, людзі, што схаваліся за імі, адышлі ў нябыт, як, зрэшты, і самыя тэмы. Але некаторыя з напісаных у тыя часы твораў ня шкодзіць згадаць і сёньня: кожны жанр мае свае «вечныя» тэмы. Як у пародыі, напісанай 10.03.1946 г. Р. Бэзам (Палікарпам Манькowым) і прысьвечанай «тузе па радзіме».*

### Смутак на чужыне

Цяжка, цяжка сіраціне
У чужой, сухой краіне
Дзе ў людзей у небарак
Усё ня гэтак, усё ня так.
Ды няма у іх балотаў,
Ні асотаў, ні чаротаў,
Ані купін, ані мхоў,
Ні лапцей, ні армякоў.
Няма гэтакіх аладак,
Ад якіх я быў так гладак
На маёй ды на радзіме
У каханай у краіне.
Ой, хачу я, ой, хачу я..
Проста птушкай палячу я
На маю ды на радзіму
У прыгожую краіну.
Сьціпла там сіпяць асіны,
Між сучкоў — капшук асінны.
У ім восы, нібы пчолкі,
Хор вядуць, як амазонкі.
Цецярук там на дубе
Ды цяцёрачку дзяўбе,
А другая падбягае:
«Дзеўбані-ж ты і мяне».
У дупле гняздо удода,
А зь яго нясецца водар.
І пахучы-ж такі ён,
Лепшы за адэкалён.
У крапіве, дзе ня суха,
Сядзіць пекная рапуха.
Сьлімакі вакол яе
Гладзяць лысіны свае.
Смачна пахне пахам плесьні,
Як ля лазьні на прадвесьні.
Зачароўваюць бары
Бляскам рудае кары.
Па гразі ў рудую восень
Пекна хлюпаюць калёсы.
Пад карчамі сьлізкі гад,
Хіба-ж ты яму ня рад?
Ёсьць свабода там і воля,
Захацеў — пайшоў у поле.
І шчасьлівы там народ —
Што яму вадаправод!
Вось краіна дык краіна!
Гэта й ёсьць мая радзіма.
Ай люлі, ай люлі —
Я люблю, і ты любі!

*Са студзеня 1996 г. у нашай газэце была рубрыка «Літаратурная спадчына», мэта якой бачылася найперш у захаваньні тэкстаў, імёнаў, у паглыбленьні самого тэрміну — літаратура эміграцыі. І сёньняшні апошні яе выпуск не азначае, што вывучэньне ці нават проста азнаямленьне з гэтай спадчынай скончана. Да гэтага яшчэ далёка. Там больш, што літаратура творыцца й зараз — Янкам Юхнаўцом, Масеем Сяднёвым, Кастусём Акулам, Янкам Золакам, Міхасём Кавылём, Янам Пятроўскім ды іншымі нашымі пісьменьнікамі ці не на ўсіх кантынэнтах. Што дае падставы для новай тэмы гаворкі — «Сучасная літаратура эміграцыі».*

***Запрашаем нашых паважаных пісьменьнікаў усіх хваляў — як эміграцыі, гэтак і мэтраполіі — дасылаць свае творы ў газэту!***

# АНТАНАС ВЭНЦЛАВА — ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЭМІГРАЦЫЙНУЮ ЛІТАРАТУРУ

**Адзін з найвыдатнейшых летувіскіх паэтаў, «жывы клясык» летувіскай літаратуры Антанас Вэнцлава адказаў на пытаньні Л. Ігруновай. Гэтае інтэрвію зьявілася ў сёлетнім сакавіцкім нумары маскоўскага часапіса «Дружба народов». Мы палічылі цікавымі для нашай чытацкай аўдыторыі некаторыя месцы з гэтае гутаркі.**

**Антанас Вэнцлава:** Мяркую, эміграцкія пісьменьнікі заўсёды, нават пры савецкай уладзе, уплывалі на літаратурны працэс у Летуве. [...] Я часам, жартуючы, кажу, што мы павінны быць удзячныя саветам за тое, што яны стварылі для эмігрантаў такія ўмовы, якіх эмігранты не маглі нават жадаць: яны так уплывалі на розумы, як ніколі ня здолелі-б пры нармальных акалічнасьцях. У кожнай з савецкіх рэспублік была свая эміграцыя, якая выразна ўзьдзейнічала на культурны працэс у гэтых рэспубліках. [...] Беларусь — асаблівы выпадак. Яна не пасьпела выпрацаваць нацыянальнае ідэнтычнасьці, што да сёньняшняга часу ўплывае на яе лёс.

**Л. Ігрунова:** *І ўсё-ж у беларускім замежжы таксама было й ёсьць колькі буйных пісьменьнікаў. У Чэхіі жыла Ларыса Геніюш. Яна была зьвязаная з кіраўніцтвам БНР. Пасьля вайны чэхі выдалі яе з мужам савецкім уладам. Адседзеўшы ў лягерох, яна да канца жыцьця (памерла на пачатку 80-х) заставалася ў Беларусі, пад Горадняй, патрабуючы, каб ёй з мужам дазволілі вярнуцца ў Прагу, ды так і не прыняла савецкага грамадзянства. Часапіс «Дружба народов» надрукаваў кнігу ейных успамінаў. Літаральна да апошняга часу ў ЗША жыла яшчэ адна паэтка — Натальля Арсеньнева. [...] Яна пакінула Беларусь разам зь немцамі. Муж камандаваў Беларускай Краёвай Абаронай. Наагул, у канцы 80-х — пачатку 90-х у Менску было апублікавана даволі шмат з напісанага эмігрантамі.*

**А. В.:** Яны пішуць па-беларуску?

**Л. І.:** *Так, вядома.*

**А. В.:** Я пра гэта нават ня ведаў. Але паўтару, у гэтай нацыі сапраўды асаблівы й досыць цяжкі лёс. Нацыянальны рух у Беларусі ўзьнік позна. Пры саветах гэты рух у вялізнай супені быў разгромлены.

**Л. І.:** *Гэта адбылося ў канцы 20-х, перад гэтым была «беларусізацыя».*

**А. В.:** Але становішча Беларусі што да стварэньня свае нацыянальнае культуры, відаць, аказалася самым цяжкім у параўнаньні з усімі былымі савецкімі рэспублікамі. Дай Божа, каб ім усё-ж такі ўдалося штосьці зрабіць, чаго я ім шчыра жадаю. Цяпер, дарэчы, Вільня зьяўляецца ў пэўным сэнсе цэнтрам беларускай культуры: там друкуецца тое, што ня можа быць надрукаванае ў Менску. Але так было заўжды.

**Л. І.:** *Дзеля справядлівасьці варта згадаць два ня менш буйныя цэнтры беларускай эміграцыі — Рыгу й Прагу.*

**(Пераклад з расейскай)**

## СМАЧНЫ КУТОЧАК

Хутка на маім блюдзе ляжала вялізная гусь з брусьнічнымварэньнем, індыковая ножка зь яблыкамі, салёныя грыбы, дзясятак калдуноў, а з усіх бакоў толькі й чутна было:

— А вось пампушкі з часнаком... А вось, пане, кавалачак шынначкі дзікага япрука, наперчаны, агнём гарыць. Памяцьцю маці заклінаючы — вазьміце... А вось цудоўная... А вось незвычайны...

— Вось як у нас па-беларуску частуюць, — рагатаў гаспадар, пабачыўшы, што я зусім разгубіўся.

— Го! Старку польскую ведаеш, гарэлку ведаеш, хахлацкі спатыкач таксама, а нашага «трыс дзявінірыс» ня ведаеш. Гэта, браце, па-літоўску «тройчы дзевяць», гарэлка на дваццаці сямі травах. Мы яе сакрэт у літоўцаў выведалі стагодзьдзі таму. Зараз яе й самі літоўцы забылі, а мы яшчэ памятаем. Пі на здароўечка, пасьля я цябе стаўным мёдам пачастую.

— А гэта што? — спытаў я, торкаючы відэльцам у нешта цёмнае на талерцы.

— Кахаsuccessfulненькі ты мой, гэта ласіныя губы ў падсалоджаным воцаце. Еш, браце, сілкуйся. Гэта страва для волатаў. Продкі нашы, зямля ім пухам, ня дурныя былі. Еш, абавязкова іх еш.

А праз хвіліну, забыўшыся, што рэкамендаваў «губы», крычаў:

— Не, браце, ты ў мяне адсюль, не пакаштаваўшы халодных пірагоў з гусінай пячонкай, ня пойдзеш.

Вячэра цягнулася далей. Я заўважыў, што Дубатоўк падлівае сабе й мне роўна, п'е й дапытліва пазірае на мяне. Калі я выпіваў чарку, на яго твары зьяўляўся выраз задавальненьня. Гэта было своеасаблівае падбухторваньне да спаборніцтва. А ў пярэрвах ён прапаноўваў то «бліны з мачанкаю», то «надзвычайныя штонікі з маслам, так і плаваюць у масьле, сьвятыя такіх ня елі».

**Ул. Караткевіч**
**«Дзікае паляваньне караля Стаха»**

### Капуста па-старажоўску*

*Качан капусты (сярэдняй велічыні)*
*Грыбы (напрыклад, пячуркі) 1 фунт*
*Мяса (лепш сьвініна) 1/2 фунта*
*Таматны соўс, алей, соль, перац, бабковы (лаўровы) ліст.*

Капусту тонка нашынкаваць і выкласьці на патэльню з алеем. Смажыць на большым агні, часта варочаючы, пакуль капуста ня стане залацістага колеру.

Падсмажаную капусту выкласьці ў рандзель.

Буйна пакроіць грыбы, пасмажыць і выкласьці ў той-жа рандзель.

Мяса рэжацца на меншыя кавалкі й падсмажваецца на меншым агні. Магчыма, спачатку з вадою пад накрыўкаю падтушыць, потым зьняць накрыўку, каб вада выпарылася й мяса падсмажылася. Пасьля гэтага мяса таксама выкладаецца ў той-жа рандзель.

У страву дадаецца таматны соўс, соль, перац, усё перамешваецца й тушыцца на малым агні. На заканчэньне тушэньня дадаецца лаўровы ліст.

**Кухар**

* Старажоўка — адзін са старых раёнаў Менску, побач з Камароўкай.



За дасланыя ў рэдакцыю матар'ялы й выразкі

**ДЗЯКУЕМ**

Ул. Акавітаму (Аўстралія),
А. Маркевічу (Канада),
Ю. Найдзюк (ЗША),
М. Шведзюку (Англія),
Кімеш-Легкашкуру (Польшча)

Галоўная Ўправа БАЗА
БІНІМ, рэдакцыя газэты «Беларус»
выказваюць шчырыя спачуваньні

**МІКОЛУ ЛАТУШКІНУ**

**ў сувязі з трагічнай сьмерцю жонкі.**

## АХВЯРАВАНЬНІ

### На выдавецкі фонд газэты «Беларус»

| | |
|---|---|
| **Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскай Моладзі штату Ілінойс** | 1,000 |
| К. Акула | 30 |
| О. Арэхва | 30 |
| В. Бранцава | 30 |
| Ю. Касьцюкевіч | 30 |
| Л. Селязьнёва | 30 |
| Я. Навагродзкі | 20 |

*Справаздача ад С. Трыгубовіча за красавік—травень*

| | |
|---|---|
| В. Бельмач | 50 |
| А. Даніловіч | 50 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| Г. Скурат | 35 |
| У. Адашкевіч | 30 |
| М. Белямук | 30 |
| М. Грэбень | 30 |
| Б. Данілюк | 30 |
| А. Няпейн | 30 |
| Б. Русак | 30 |

*З Бэльгіі (сабраў П. Барысік)*
[бэльгійскія франкі]

| | |
|---|---|
| І. Саўка | 1500 |
| А. Арэшка | 1000 |
| Я. Жучка | 1000 |
| Р. Занкоўскі | 1000 |
| Л. Клыбік | 1000 |
| П. Барысік | 500 |
| | US$162.30 |

**У памяць Я. Сурвіллы**

| | |
|---|---|
| праф. Т. Бэрд | 100 |

**У памяць Ф. Романо**

| | |
|---|---|
| праф. Т. Бэрд | 100 |

**У памяць др. В. Тумаша**

| | |
|---|---|
| Фундацыя імя П. Крэчэўскага | 100 |
| З. і В. Кіпель | 100 |

### На «Весткі й паведамленьні»

| | |
|---|---|
| І. Смаршчок | 25 |
| Л. Кавалёў | 10 |

### На БІНІМ

| | |
|---|---|
| А. і Б. Даніловіч | 100 |
| Л. і Л. Касоўскія | 50 |
| І. Сурвілла | 50 |
| С. Шабовіч | 50 |
| Ул. Пеляса | 25 |



**У памяць А. Адамовіча**

| | |
|---|---|
| З. і В. Кіпель | 100 |
| др. У. Набагез | 100 |
| др. А. Романо | 60 |
| Т. і А. Кольба | 50 |
| Л. Стагановіч | 50 |
| Н. і А. Няпейн | 40 |
| Л. Гутырчык | 30 |

**У памяць Я. Касьцюкевіча**

| | |
|---|---|
| др. А. Романо | 50 |

**У памяць Ф. Романо**

| | |
|---|---|
| Л. Гутырчык | 35 |

**У памяць др. В. Тумаша**

| | |
|---|---|
| др. Ул. Набагез | 200 |
| Т. і А. Кольба | 100 |
| др. А. Романо | 100 |
| В. і В. Рамук | 50 |
| Н. і Ул. Русак | 50 |
| Л. Гутырчык | 35 |

### На Фонд «Адраджэньне»

| | |
|---|---|
| В. і Ф. Бартуль | 600 |

### На выданьне кнігі сьв.пам. Міхася Раманюка «Беларускія народныя крыжы»

| | |
|---|---|
| Др. А. Романо | 250 |
| Я. і Н. Запруднік | 200 |
| К. і Я. Вініцкія | 100 |
| В. і З. Кіпель | 100 |
| Т. Стагановіч | 100 |
| Фундацыя імя П. Крэчэўскага | 100 |
| М. Латушкін | 75 |
| Я. Мішэль | 75 |
| Я. А. | 50 |
| Ф. і В. Бартуль | 50 |
| Л. і Л. Літаровіч | 50 |
| Г. і В. Русак | 50 |
| А. і Н. Сільвановіч | 50 |
| Л. Стагановіч | 50 |
| В. Стус | 50 |
| Ю. Андрусышына | 25 |
| Я. Каханоўская | 25 |
| Р. Станкевіч | 25 |
| А. Шукелойць | 25 |

### На арганізацыю 10-га паломніцтва да Беларускага Крыжа

*US$*

| | |
|---|---|
| К. Вініцкая | 226.50 |
| Ф. Бартуль | 200.00 |
| Б. Даніловіч | 100.00 |
| В. Махнач | 100.00 |
| Н. Жызьнеўскі (*Can$*) | 15.00 |

### На Фонд Памяці Н. Арсеньневой

| | |
|---|---|
| **Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскай Моладзі штату Ілінойс, са спадчыны Н. Грандэ-Кулікoвіч** | 4,000 |
| Я. Каханоўская | 25 |

У № 453 у рубрыцы «Ахвяраваньні» была пададзена памылковая інфармацыя, якая ўскосна ўказвала на сьмерць др. А. Бразоўскага. Перапрашаем доктара Анатоля Бразоўскага за прыкрую памылку й зычым моцнага здароўя ды шмат гадоў жыцьця.

Перапрашаем спадарства М. і В. Сьнежкаў за тэхнічныя няспраўнасьці ў касаваньні чэку на падпіску.